С. АМОСАЎ

# ТАНКІ Ў БАІ

Пераклад з рускай мовы

В. Сакалоўскай

ДЗЯРЖАЎНАЕ ВАЕННАЕ ВЫДАВЕЦТВА БССР
МЕНСК — 1932

Рэдактар *А. Вайцешэня*
Літпраўка *Сакалоўская*
Тэхрэдактар *І. Белкін*
Карэктар *Жыковіч Ю.*
Здана ў друкарню 24|V 32 г.
Падпісана да друку 25|VI 32 г.

## ЗЬМЕСТ



---

Заказ № 1295. 5000 экз. ($2^1/_8$ арк.). Галоўлітбел № [illegible]

Друкарня імя Сталіна.

С. Амосаў—„Танкі ў баі“. Разам з посьпехамі індустрыялізацыі нашай краіны расьце і тэхнічнае ўзброеньне Чырвонай арміі. Ня толькі начальніцкі састаў, але і кожны чырвонаармеец павінны ўмець карыстацца магутнымі сродкамі тэхнічнага змаганьня, якімі паступова абагачаецца Чырвоная армія. Нашыя ворагі да зубоў узбройваюцца новай тэхнікай, будуючы тысячы танкаў, самалётаў, танкетак, бронямашын, утвараючы моторызаваныя і мэханізаваныя часьці. Ясна, што на баявых палёх, калі прыдзецца супроць тэхнікі змагацца або дзейнічаць сумесна з ёю,—трэба гэта рабіць умела. Кніжка т. Амосава, разьлічаная на малападрыхтаванага чытача, дае некаторыя зьвесткі па пытаньнях баявога ўжываньня танкаў. Жывы выклад баявых прыкладаў дазваляе лёгка разабрацца ў кніжцы ня толькі пісьменнаму чырвонаармейцу, але і кожнаму, нават мала падрыхтаванаму ў ваеннай справе чытачу.

---

# АГУЛЬНЫЯ ЗЬВЕСТКІ АБ УЖЫВАНЬНІ ТАНКАЎ.

Танкі зьявіліся ўпяршыню ў часе імпэрыялістычнай вайны. Першыя танкі былі грамозныя, ціхаходныя, ненадзейныя ў дзеяньні. Аднак, яны ўсё-ж зьявіліся магутнымі баявымі машынамі, якія спалучылі ў сябе броню, агнявыя сродкі (пушкі і кулямёты) і рухавасьць на полі бою (вусенічны рухальнік). Гэтыя асноўныя ўласьцівасьці танкаў дазволілі ім аказваць такую дапамогу пяхоце ў часе атакі, якую не маглі ёй даць іншыя роды войск.

Танкі прадназначаліся для зьнішчэньня кулямётаў, чаго цалкам не магла зрабіць артылерыя, таму што кулямёты добра хаваліся і зьяўляліся тады, калі пяхота пераходзіла ў атаку. Танкі павінны былі часткова замяніць артылерыю і, ідучы ўперадзе пяхоты, расчышчаць ёй дарогу.

Упачатку танкі дзейнічалі толькі сумесна з пяхотай, якая наступала, г. зн. танкі і пяхоты біліся непасрэдна побач, дзякуючы гэтаму ад першых танкаў не патрабавалася вялікай быстраходнасьці, патрабаваліся толькі добрая броня і магутны агонь.

Ня гледзячы на тое, што якасьці першых танкаў былі на наш погляд нізкія, танкі ўсё-ж адыгралі вялікую ролю ў перамозе Антанты над Германіяй. Пасьля сусьветнай вайны вопыт ужываньня танкаў быў старанна вывучаны. Увесь пасьляваенны пэрыод аж да нашых дзён вынаходцы ўпарта стараюцца ўдасканаліць танк і зьнішчыць або зьменшыць яго недахопы.

Новыя танкі шмат у чым адрозьніваюцца ад танкаў часу імпэрыялістычнай вайны: яны быстраходны, паваротлівы і здольны больш доўга быць у баі і ў руху. Яны маюць больш удасканалае ўзброеньне і лепш перамагаюць перашкоду. Аднак многа, асабліва ў Францыі, засталося, шчэ старых танкаў, хаця ў іх і зроблены рад палепшаньняў. У будучай вайне мы можам сустрэцца як з новымі танкамі, так і са старымі, якімі французская буржуазія старанна снабжае сваіх сяброў, у тым ліку і Польшчу.

Посьпехі танкабудаўніцтва пашырылі вобласьць баявога ўжываньня танкаў. Ужо ў часе імпэрыялістычнай вайны ад танкаў патрабавалася: ня толькі справаджаць пяхоту, але і вырашаць рад новых рознастайных баявых задач.

Наш палявы статут гаворыць (стар. 206): У наступленьні танкі могуць ужывацца:

а) для сумеснай атакі з пяхотнымі часьцямі;

б) для выкананьня самастойных задач у глыбі абараняльнай паласы ў сувязі з дзеяньнямі пяхоты і артылерыі;

в) для сумесных дзеяньняў з коньніцай на флянгах супраціўніка;

г) у саставе моторызазаных часьцей на флянгах і ў прарывах.




Рыс. 1. Схілы з круцізной больш 45° не бярэ ніводзін танк.

Посьпех дзеяньняў танкаў шмат у чым залежаць ад мясцовасьці. Нельга застаўляць танкі ісьці там, дзе яны ня могуць перамагчы мясцовасьць. Лясістыя раёны, напрыклад, вельмі перашкаджаюць дзеяньням танкаў, таму што яны ня могуць ісьці па вялікім і густым лесе. Равоў і наогул схілаў з круцізной больш 45° танкі перамагчы ня могуць (Рыс. 1); непраходны для танкаў і рэкі з крутымі

берагамі, гразкім дном або глыбінёй больш за 1 *м* (для лёгкіх танкаў глыбіня броду ня больш 50—60 *см*). Такім чынам, танкі могуць дзейнічаць ня ўсюды, а значыць і не заўсёды войскі могуць спадзявацца на садзеяньне танкаў.

Танкі—сродак рашучага ўдару. Яны ўжываюцца там, дзе патрабуецца нанесьці супраціўніку сільнае паражэньне. А таму адны часьці будуць мець на сваім фронце танкі, другія іх ня будуць мець зусім і павінны будуць біцца самастойна, асабліва там, дзе мясцовасьць для дзеяньня танкаў нявыгодная.

Чаму нельга раздаць танкі пароўну ўсім часьцям? Таму, што тады прышлося б на долю кожнай часьці вельмі мала танкаў; танкі былі-б распылены па ўсім фронце, і супраціўнік лёгка-б справіўся з імі па чарзе.

Іншая справа, калі дадаць танкаў у неабходнай колькасьці на выгодны для іх дзеяньня магчыма больш шырокі вучастак фронту. Тады танкі будуць мець вялізарную сілу, якая разаб'е ворага і палегчыць баявую работу часьцей па іншых вучастках, якія ня маюць танкаў.

Раздаць танкі ўсім пароўну, гэта азначае біць супраціўніка растапыранымі пальцамі, замест таго, каб ударыць сільным кулаком. Вось чаму танкавыя часьці не ўваходзяць у састаў корпусаў, дывізій, палкоў, а знаходзяцца ў распараджэньні галоўнага камандваньня, якое накіроўвае іх адразу ў вялікай колькасьці туды, дзе трэба нанесьці руйнавальны ўдар ворагу і дзе мясцовасьць

спрыяючая для ўжываньні танкаў. Там, дзе гэта трэба, танкі можна дадаць палкам, батальёнам і ротам. Менш узводу танкаў пяхотнаму падразьдзяленьню (батальёну, роце) не дадаецца.

Наша Чырвоная армія ўсс больш і больш узбагачаецца тэхнікай, у прыватнасьці танкамі. Таму кожны баец павінен ведаць, што становяць сабою розныя тыпы танкаў, якія іх уласьцівасьці, як і калі яны ўжываюцца, як з імі дзейнічаць, у чым яны дапамагаюць пяхоце, кавалерыі і артылерыі і ў чым яны чакаюць дапамогі ад гэтых родаў войск.

---

## ТЫПЫ ТАНКАЎ.

Адрозьніваюць наступныя асноўныя тыпы танкаў:

1) лёгкія танкі (вагою да 7 *т*);
2) сярэднія танкі (ад 12 да 23 *т*);
3) цяжкія танкі (ад 30 да 70 *т*);
4) танкеткі (да 2,5 *т*).

### 1. Лёгкія танкі.

Лёгкі танк Рэно (французскі і рускі). Вага яго 7 *т*; браніроўка—глухая, якая засьцерагае ад куль і асколкаў (часткова і знарадаў); скорасьць 3—5 *км* сярэдняя і 8 *км* максымальная; запасу ходу на 7—8 гадзін; праходзіць па грунце там,

дзе праходзіць пехацінец; перамагае схілу да 45° круцізны (практычна 35—40°); праходзіць броды ў 50—70 *см* глыбіні, перамагае равы са спаднымі сьценкамі шырынёю да 1,8 *м*; ламае асобныя дрэвы таўшчынёй да 25 *см*; разбурае цагляную сьценку ў 2 цэглы таўшчынёй; пералазіць праз сьценку вышынёй у 50 *см*; разбурае дротавыя за-




Рыс. 2. Лёгкі танк Рэно ў разрэзе.

гароды (робіць праходы для пяхоты), кулямётныя гнёзды і казыркі акопаў (рыс. 2).

Узброеньне танка: у французскага Рэно кулямёт або 37-мілімэтравая пушка Гочкіса, якія зьмешчаны на вежы, якая верціцца (на 360°) кругом. Запас агняпрыпасаў: кулямётных патронаў 4.800 шт. або пушачных патронаў (гранат)—240 шт. Рэно рускі мае ў вежы кулямёт і пушку, разьмешчаныя пад кутом адзін да аднаго. Адначасова страляць можна або з пушкі, або з кулямёта, таму што вежа разьлічана на 1 чалавека. Запас агняпрыпасаў: кулямётных патронаў каля 2.000—2.500 і пушач-

ных патронаў (гранат) 260 шт. Дзейны агонь з танка на хаду 200—300 *м*. Адлегласьць у 3—5 *м* ад танка ён абстраляць ня можа. Гэта называецца мёртвай адлегласьцю.

Танкі Рэно ў невялікай колькасьці ёсьць і ў нас, але яны хутка замяняюцца нашымі новымі танкамі, больш быстраходнымі.

Вельмі многа танкаў Рэно пасьля вайны засталося ў Францыі, таму ўжываньне гэтых устарэлых танкаў у будучай вайне зусім магчыма, нават ня гледзячы на тое, што ёсьць палепшаныя ўзоры: напрыклад, у палякаў новыя танкі Рэно рухаюцца са скорасьцю да 18 *км* у гадзіну.

Танкі тыпу Рэно прадназначаюцца, галоўным чынам, для таго, каб дзейнічаць разам з пяхотай, дапамагаючы ёй зьнішчаць кулямёты, што шкодзяць ёй, і разбураць палявыя штучныя перашкоды.

## 2. Цяжкія Танкі.

Старым прадстаўніком цяжкіх танкаў зьяўляецца амаль ужо ўсюды зьняты з узброеньня, але які паказаў здавальняючыя баявыя якасьці (надзейнасьць мотора і вусеніцы) вялікі танк з мотарам сыстэм Рыкардо—марка V. Яго баявая вага 28—29 *т*. Браніроўка глухая ад куль і асколкаў знарадаў; скорасьць руху 4—5 *км* у гадзіну сярэдняя і 7—8 *км* максымальная; запас ходу на 10 гадзін (каля 70 *км*); праходнасьць па балоцістым грунце крыху меншая, чым у Рэно; добра перамагае крутасьці—да 45°; праходзіць

броды ў 1 *м* глыбінёй, ровы да $3^1/_2$ *м* шырынёй; валіць асобныя дрэвы таўшчынёй да 50—60 *см*, разбурае цагляную сьцяну таўшчынёй у 3 цэглы і дротавыя загароды і бліндажы лёгкага тыпу (рыс. 3).

Узброеньне: або дзьве 57-мілімэтравыя морскія пушкі Гочкіса і 4—5 кулямётаў (у ангельцаў танк з такім узброеньнем называўся „самец“), або




Рыс. 3. Цяжкі танк Рыкардо ў разрэзе.

6 кулямётаў. У першым выпадку запас кулямётных патронаў 5.400 і каля 200 знарадаў для пушкі; у другім — каля 14.000 кулямётных патронаў. Стральба простай наводкай. Мёртвая адлегласьць 2—4 *м*. Дзейны агонь 200 300 *м*: Каманда—8 чалавек. Цяжкі танк маркі V даўжэй лёгкага танка Рэно, а таму ён можа перамагаць ровы (акопы) не ў 1,8 *м* шырынёй, а—у 3,5. Наогул-жа ён перамагае больш сур'ёзныя перашкоды, чым лёгкі танк, і ўзброены значна мацней (рыс. 4).

Танк Рыкардо ўжываецца, галоўным чынам, у часе атакі (прарыве) умацаванай позыцыі, якая

мае такія перашкоды, якія лёгкі танк перамагчы ня можа (напрыклад, ровы і акопы да 3,5 *м* шырынёй). У прыватнасьці лёгкі танк не праходзіць праз лейкі ад цяжкіх знарадаў, а ў часе атакі сільна ўмацаванай паласы поле бою пакрыецца такімі лейкамі. Стары тып цяжкога танка, які апісаны вышэй, ціхаходны і можа мала знаходзіцца ў дзеяньні (10 гадзін работы мотора).




Рыс. 4. Параўнальная велічыня танка Рэно (заштрыхаваны) і Рыкардо.

## 3. Сучасныя танкі.

Ужо імпэрыялістычная вайна паказала выгоду танкаў для вырашэньня самастойных задач (налёт у глыбокі тыл супраціўніка, хуткі ахоп флянгу) і для дзеяньняў з кавалерыяй. Старым тыпам танкаў для гэтага не хапала скорасьці і далёкасьці дзеяньня. Вынаходцы пасьля вайны далі цэлы рад новых быстраходных танкаў. Больш за ўсё ў гэтай галіне зрабіла Англія, якая дала ў рэзультаце

вопытаў вельмі ўдалыя ўзоры быстраходных танкаў. Да іх належыць аднесьці цяжкі, сярэдні і лёгкі танкі Вікерс. Апрача таго да ліку вынаходніцтваў ангельцаў у танкавай справе належыць самы лёгкі танк, гэтак званая „танкетка“.

## Цяжкі танк Вікерс.

Лепшым тыпам сучаснага цяжкога танка, быстраходнага і з вялікім радыусам дзеяньня, зьяўляецца апошні ангельскі цяжкі быстраходны танк



Рыс. 5. Цяжкі танк Вікерс.

Вікерс, гэтак званы „танк прарыву“. Ён мае гранічную скорасьць да 30 *км* у гадзіну (рыс. 5). Такі танк можа ня толькі перамагчы ўмацаваную паласу, але перамагчы яе вельмі хутка, а таксама хутка выйсьці ў глыбокі тыл супраціўніка і зрабіць там сур'ёзныя разбурэньні і зьнішчэньні.

Паданы на рыс. 5 цяжкі танк Вікерс мае баявую вагу каля 42 *т* і ўзброены 4 кулямётамі

і 47-мілімэтравай пушкай; кожны кулямёт і пушка ў асобных вежах (у цэнтральнай вежы пушка і ў 4 вуглавых—кулямёты).

### Сярэдні танк Вікерс.

Ёсьць два тыпы сярэдніх танкаў: адзін у 12 *т* (узору 1926 г.), другі ў 16 *т* (узору 1927 г.). 12-тонны сярэдні танк Вікерс (рыс. 6) мае на ўзброеньні 47-мілімэтравую пушку, 2 цяжкіх



Рыс. 6. Сярэдні танк Вікерс.

і 4 лёгкіх кулямёты; сярэдняя яго скорасьць 25-30 *км* у гадзіну; запас ходу 12 гадзін. Ён перамагае акопы шырынёй у 2—3 *м* і праходзіць брод да 1,2 *м* глыбінёй. Зьмяшчае каманду ў 5 чалавек.

16-тонны сярэдні танк Вікерс мае максымальную скорасьць да 45 *км* у гадзіну, мае мотор ззаду і плоскую броніроўку.

## Лёгкі танк Вікерс.

Баявая вага—7,8 *т.* Скорасьць сярэдняя—каля 30 *км* у гадзіну, найбольшая—35 *км* у гадзіну. Броня 13 *мм*, не прабіваецца нават бронябойнай куляй. Узброеньне: 2 цяжкіх кулямёты



Рыс. 7. Лёгкі танк Вікерс.

(1 з іх калібрам 12,7 *мм*); замест аднаго кулямёта можа быць пастаўлена 37-мілімэтравая пушка; кожны кулямёт разьмяшчаецца самастойна ў вярчальнай вежы. Каманда—3 чалавекі (вадзіцель і 2 стралкі—1 з іх камандзір танка) (рыс. 7).

Легкі танк Вікерс мае тую перавагу перад танкам Рэно, што можа весьці агонь адначасова

з дзьвух агнявых адзінак. Як лёгкі, так і сярэдні танкі Вікерс быстраходны.

Новыя танкі Вікерс становяць сабой рухомыя і магутныя па ўзброеньні машыны. Такія танкі здольны хутка перамагаць вялікую адлегласьць і, зьявіўшыся на фронце флянгу або ў тыле супраціўніка, нанесьці яму вялікую страту, уступаючы нават у адзінаборства з артылерыяй. Яны-ж могуць дзейнічаць разам з кавалерыяй, дапамагаючы ей перамагаць агнявое супраціўленьне супраціўніка. Усё, што было сказана да гэтага часу аб танках, датычыцца да танкаў, якія прыняты на ўзброеньне. Але ўжо ёсьць новыя вопытныя ўзоры, якія значна перавышаюць іх па сваіх вартасьцях. Так, напрыклад, у Злучаных штатах Амэрыкі ёсьць узор новага колавага-вусенічнага танка Крысьці ўзору 1930 г., які рухаецца без дарогі з хуткасьцю 35—40, а па дарогах да 80—110 *км* у гадзіну па розных даных).

## Танкетка.

Танкетка—гэта вельмі маленькі танк, які лёгка кіруецца і здольны да хуткага руху (рыс. 8). Танкетка нізкая, і таму яе мала паражае агонь супраціўніка, але за тое мае тонкую і ня суцэльную броніроўку: яна зьверху або зусім адкрыта, або прыкрыта вельмі слаба. Яе даўжыня ўсяго 2,5 *м*, г. зн. у 2 разы менш даўжыні лёгкага танка. Яе шырыня 1,7 *м* і вышыня 1 *м*. Важыць яна каля 1,5 *т*, г. зн., прыкладна, у 4 разы менш, чым

лёгкі танк. Яна перамагае пад'ёмы да 45° круцізны; роў каля 1 *м* шырыні, г. зн., што трохі менш чым лёгкі танк; аднак, танкетка ня можа пераходзіць праз акопы, якія звычайна маюць шырыню больш 1,2 *м*. Пераходзіць праз сьценку вышынёй да паўмэтра і брод такой-жа глыбіні. Лясы пера-



Рыс. 8. Кулямётная танкетка Кардэн-Лёйд.

магаць ня можа, за выключэньнем зусім дробнага хмызьняка. Яе лёгкая вага дазваляе ёй праходзіць нават праз дрэнныя масты па прасёлачных дарогах, што не заўсёды можа зрабіць лёгкі танк. Танкетка мае гранічную скорасьць руху па дарогах каля 45 *км* у гадзіну і без дарог амаль 20 *км* у гадзіну, запас ходу на 100 *км*. Узброеньне: 1 станкавы кулямёт з запасам 3.500 патронаў, або 47-мілімэтравая пушка. Каманда—2 чалавекі.

Зразумела, шо танкетка можа рабіць больш глыбокую і хуткую выведку, чым коньніца або чым колавыя бронямашыны, таму што апошнія рухаюцца пераважна па дарогах. Танкеткі ўжываюцца ў мотомэханізаваных злучэньнях, г. зн. такіх баявых злучэньнях, якія рухаюцца выключна на моторах (мэханічнай цязе) і аснову якіх складаюць бранявыя машыны: танкі, танкеткі і броняаўтомобілі. Танкеткі могуць ужывацца і для спэцыяльнай баявой выведкі.

Сучасныя танкі рухаюцца хутчэй, чым даўнейшыя: яны больш выносьлівыя. Аднак, калі трэба перакінуць танкі (лёгкія) на вялікую адлегласьць і ёсьць добрыя дарогі (шаша або цьвёрдая і роўная грунтавая), дык танкі можна пагрузіць на вялікія грузавікі. Так яны перакідваюцца хутчэй і лепш захоўваецца іх матэрыяльная частка (мотор і вусеніца). Такім-жа чынам могуць перакідацца і танкеткі, прычым для іх перакідкі дастатковы $1^1/_2$—$2^1/_2$-тонныя грузавыя машыны.

Цяжкія танкі старога тыпу, як правіла, на адлегласьць звыш 25 *км* перакідваюцца па чыгунцы на спэцыяльных плацформах.

---

## АСНОВЫ ДЗЕЯНЬНЯ ТАНКАЎ У БАІ.

Па атрыманьні задачы танкавыя часьці распалагаюцца ў выгодных для іх і схаваных ад паветранага назіраньня раёнах, якія называюцца р а ё н а м і з б о р у. Перад боем, у якім удзельнічаюць танкі,

робіцца танкавымі камандзірамі і выведнікамі спэцыяльная танкавая выведка. Яна ўстанаўляе, дзе распаложаны агнявыя сродкі супраціўніка і дзе лепш дзейнічаць танкам. У часе выведкі танкавыя падразьдзяленьні з раёнаў збору пераходзяць на вычакальныя позыцыі (3—5 *км* ад перадавых часьцей пяхоты).

Зрабіўшы выведку і атрымаўшы задачы, танкавыя камандзіры адначасова ўстанаўляюць сувязь з пяхотай. Затым яны выбіраюць выходную для атакі позыцыю, намячаюць баявы курс (кірунак на пункт атакі) і вызначаюць час і парадак руху з вычакальнай і выходнай позыцыі. Нарэшце, намячаюць зборны пункт пасьля вырашэньня задачы і паказваюць парадак харчаваньня і рамонту танкаў. Выходныя позыцыі, г. зн. позыцыі, з якіх танкі пойдуць у атаку, займаюцца імі не раней, як за дзьве гадзіны да атакі, каб ня выявіць сябе раней часу. Баявы курс вызначаецца ня простым кірункам на пункт атакі, а найбольш выгодным шляхам для танкаў,—там, дзе адсутнічаюць перашкоды і ёсьць ахова ад агню.

Для бою танкавы ўзвод ужывае парадак, пры якім танкі распалагаюцца ў адну лінію—лёгкія на інтэрвалах ад 50 да 100 *м*, цяжкія ад 100 да 150 *м*; танк камандзіра ўзводу распалагаецца ў сярэдзіне.

Баявы апарадак танкавай роты: або тры ўзводы ў лінію, або ў два эшалёны (у першым эшалёне адзін узвод, у другім—два, або наадварот), або ў тры эшалёны (узвод за ўзводам). Дыстанцыя

між эшалёнамі 200—400 *м*, а інтэрвалы між узводамі ад 150 да 600 *м*.

Узвод стараецца атакаваць пункт атакі з 3-х бакоў. Кіруецца рота і ўзвод асабовым прыкладам камандзіра („рабі, што я“), пры дапамозе сыгналаў флажкамі, або па радыё (радыё у камроты і ў камзводаў).

На выпадак страты танкаў і людзей ёсьць запасныя танкі і запасныя спэцыялісты.

---

## ДЗЕЯНЬНІ ТАНКАЎ У ЦЕСНЫМ УЗАЕМАДЗЕЯНЬНІ З ПЯХОТАЙ.

Калі танкі дзейнічаюць у цесным узаемадзеяньн з пяхотай, тады звычайна танкавыя часьці да даюцца (уваходзяць у часовае падначаленьне пяхоце, якую падтрымліваюць, падобна да таго як пяхоце дадаюцца артылерыя, сапёры, хэмікі і г. д.

Як узаемадзейнічаюць танкі і пяхота? Мож быць так, што пяхота ідзе ў бой побач, локац да локця, або ззаду за хвастом танкаў ніколі н адстаючы ад іх?

Не, ня так. Справа ў тым, што танкі ідуц значна хутчэй пяхоты, а галоўнае—пяхота павінн ўкрывацца ад кулямётнага агню супраціўніка Танкам-жа кулямётны агонь ня страшны. Танк лавіруюць на полі бою, каб ня трапіць па

артылерыйскі агонь супраціўніка, якога яны баяцца. Ну, а чым хутчэй рухаецца танк, тым цяжэй трапіць у яго артылерыі.

Больш таго—калі пяхота будзе ціснуцца да танкаў, прыліпаць да іх, то яна будзе мець страты ад таго артылерыйскага агню, які накіроўваецца супраціўнікам па танках.

Пяхотны камандзір не загадвае танкам: „ідзі так, а ня гэтак“. Ён гаворыць танкаваму камандзіру: „Майму батальёну прыказана атакаваць і захапіць вышыню з кустамі. На гэтай вышыні кулямёты супраціўніка. Дапамажы мне захапіць гэтую вышыню: ідзі і зьнішчы гэтыя кулямёты, а я з батальёнам пайду ў атаку за танкамі і захаплю вышыню“.

Камандзіры пяхоты і танкаў павінны добра згаварыцца паміж сабой. Камандзір танкавага падразьдзяленьня (роты, узводу) атрымлівае ад камандзіра пяхоты (батальёна, роты) задачу: калі, дзе як танкі павінны падтрымаць пяхоту і што будзе рабіць апошняя.

Танкавыя-ж камандзіры павінны ўказаць, якая ім патрэбна дапамога з боку артылерыі, сапёр і г. д. Артылерыя павінна захаваць танкі ад агню гармат супраціўніка, а сапёры павінны дапамагчы перамагчы танкам тыя перашкоды, якія яны самі перамагчы ня могуць (шырокія і глыбокія канавы, ямы ад цяжкіх знарадаў і да т. п.). Пяхота таксама павінна дапамагаць танкам агнём кулямётаў па выяўленай ёй супроцьтанкавай зброі супраціўніка. Супроцьтанкавыя сродкі так удасканаліліся,

што танкі павінны ва ўсіх выпадках атрымоўваць надзейную падтрымку ад пяхоты, кулямётаў і артылерыі.

---

## РАСКАЗ АБ ТЫМ, ЯК ДЗЕЙНІЧАЛІ ТАНКІ З ПЯХОТАЙ.

Моцна біўся супраціўнік, але, нарэшце, ня вытрымаў і адступіў. Аднак праз два дні мы зноў наткнуліся на яго моцную абарону з дротам уперадзі. Адразу зьбіць супраціўніка нам не ўдалося. Нашы перадавыя часьці былі спатканы арганізаваным кулямётным агнём і залеглі, не даходзячы да дроту мэтраў 300—400. Наша рота знаходзілася ў другім эшалёне. Нас папярэдзілі, што на досьвітку наступнага дня мы будзем атакоўваць супраціўніка.

К вечару, пасьля некалькіх часоў артылерыйскага бою, міма ўзводу разам з нашым камбатам, прабраўся ўперад камандзір з трыма квадрацікамі на чорных пятліцах. Мы чулі, як, праходзячы міма нас, камбат гаварыў яму, адкуль стралялі кулямёты і пушкі супраціўніка. Сочачы за ім, мы бачылі, як, прабраўшыся да перадавых часьцей, ён уважліва глядзеў у бінокль у бок супраціўніка, потым ён адпоўз зноў за грэбень і міма нас разам з камбатам пайшоў назад.

Ад камандзіра ўзводу пазьней мы даведаліся, што гэта быў камандзір танкавага ўзводу.

Да вечара камандзір узводу т. Ватуцін сказаў аддзялкомам: „Мы заўтра атакуем супраціўніка.

Наш узвод атакуе кулямёт супраціўніка вунь на тым пункце з асобным кустом. Час атакі—пасьля сьвітаньня. Сыгнал атакі—чырвоныя ракеты“.

Перад захадам сонца камандзір узводу перадаў асобным камандзірам: „нашаму батальёну дадана рота танкаў. Танкі пойдуць у наступленьне і атаку ўперадзе пяхоты. Выступленьне танкаў з выходных позыцый будзе прыкрыта дымавой заслонай“ (пытаньні 1 і 2 гл. на стар. 36, 37).

Прыкладна каля гадзіны ночы дзьве нашы батарэі адкрылі часты агонь па вышыні з руінамі згарэўшага ад артагню млыну. Супраціўнік прачнуўся і адказваў уразброд артылерыйскім і кулямётным агнём. Такая перастрэлка цягнулася мінут 0, а то і гадзіну. Нарэшце, усё заціхла. Толькі пасьля мы даведаліся, што стральба была арганізавана для таго, каб гукам стрэлаў скрыць шум матораў і грукат вусеніц танкаў, якія занялі выходныя позыцыі. Адначасова гэтай стральбой прыкрыта вылазка выведнікаў за палоннымі насуседнім вучастку. Спаць ужо не хацелася. Камандзір нашага ўзводу растлумачыў нам наступнае:

— Заўтра, таварышы, рашучая атака супраціўніка. Трэба яго пабіць так, каб ён не аправіўся. У дапамогу нам даны лёгкія танкі. Цэлая рота—10 танкаў. Запомніце: танкі нам зробяць праходы ў дротавых загародах. Для гэтага яны выйдуць з выходных позыцый раней нас. Мы за імі пойдзем тады, калі яны зробяць праходы. Пасьля гэтага танкі пойдуць уперад зьнішчаць кулямёты супра-

ціўніка, а мы пойдзем за імі. Не чапляйцеся за хвасты танкаў, не бяжэце за імі. Танк пойдзе то ўправа, то ўлева, а то і проста выйдзе з нашага кірунку. То ён кулямёт заўважыць, то супроцьтанкавую пушку, то перашкоды яму трэба абыйсьці. Будзем наступаць мэтрах у 200 за танкамі. Калі мясцовасьць будзе ўкрыта ад агню супраціўніка, можна падыйсьці да танка і бліжэй.

Памятайце добра: танкі могуць прапусьціць, не заўважыўшы які-небудзь кулямёт супраціўніка. Таму не зявайце—трымайце вінтоўкі і кулямёты напагатове. Дапасоўвайцеся да мясцовасьцей. Да вечара мы ўсе бачылі мясцовасьць у супраціўніка—то трава, то хмызьнякі. Прытуліўся кулямёт супраціуніка і будзе маўчаць, каб танк яго не заўважыў. Назіраць танку вельмі ня лёгка, бо відаць з танка дрэва. А чуць, дык і зусім нічога не пачуеш—і калыша, і кідае, і шуміць мотор, бразгаюць вусеніцы. Кулямёт супраціўніка моўчкі прапусьціць міма сябе танкі, а як пойдзем мы ў атаку, дык ён і запусьціць па нас сьвінцом.

—Таварыш камандзір, дазвольце,—умяшаўся чырвонаармеец Пятрукоў. Ён быў прызваны з запасу, шмат чаго ня ведаў, ды і рэдка з-за ленасьці цікавіўся чым. Быў санлівы і дрэнна на яго таварышы спадзяваліся,—Таварыш камандзір, дык якая-ж тады розьніца,—з танкамі біцца, або бяз іх? Усё адно па-мойму і так кулямёты супраціўніка „косяць“ нас і тут зьяўляюцца і таксама косяць.

— Таварыш Пятрукоў, вы і маеце рацыю і не.

Розьніца вялікая. Скажэце, танкі праходы ў дроце робяць? Робяць. Артылерыя робіць праход на працягу цэлых дзьвюх гадзін і траціць на гэта 200—250 знарадаў, а танк праход робіць на працягу некалькіх мінут. Кулямёты танкі гасяць? Гасяць. Ці могуць яны пагасіць усе кулямёты? Не, ня могуць, таму, што часьць кулямётаў заўсёды застанецца незаўважнымі танкамі. Але танкі могуць зьнішчыць кулямёты значна больш і хутчэй, чым артылерыя.

Каб зьнішчыць больш кулямётаў, танкі павінны добра выведаць іх распалажэньне. Вы бачылі, як яшчэ ўдзень да нас падпаўзаў якісьці камандзір з артылерыйскімі пятліцамі. Гэта быў танкіст. Чулі, як ён пытаўся, дзе нашы перадавыя часьці, адкуль стралялі кулямёты, ці не заўважылі, адкуль стралялі пушкі. Чым больш у яго будзе дакладных зьвестак, тым больш кулямётаў ён прыдушыць і тым лягчэй нам будзе ісьці ў атаку. А ці многа зьвестак мы маглі яму даць?—Ня вельмі многа. Разьлічваючы на пярэдніх, мы дрэнна назіралі за полем бою і таму мала дапамаглі танкісту.

— Але апрача выведкі да бою трэба танкам дапамагаць яшчэ ў баі агнём кулямётаў, гранат і артылерыі. Танкі за ўсім прасачыць ня могуць. Заўсёды нечакана для танкаў зьяўляецца супроцьтанкавая пушка. Мы, пехацінцы, павінны ўвесь час сачыць за яе зьяўленьнем. Як зьявіцца, дык адкрывай агонь з кулямёта, вінтовак або гранатамёта па пушцы, перадай батарэі, каб адкрыла па ёй агонь. Такая пушка, калі яе не заўважыць,

можа вывесьці са строю некалькі танкаў. Камандзір роты нам расказваў, як адойчы ў часе імпэрыялістычнай вайны адна, добразамаскаваная, пушка вывела са строю некалькі танкаў.

— І вось, таварышы, ня толькі танкі дапамагаюць пяхоце ў баі, але і пяхота таксама дапамагае танкам. З танка дрэнна відаць, што робіцца на полі бою. Танк калышыцца, глядзельныя адтуліны вельмі малыя і ад штуршкоў скачуць перад вачыма. Супроцьтанкавая зброя лёгка можа апынуцца незаўважанай або заўважанай толькі тады, калі яна ўжо зьнішчыць некалькі танкаў. Пяхота (і артылерыя, вядома) павінна назначыць асобных назіральнікаў за зьяўленьнем супроцьтанкавых гармат. Хаця ў баі цяжка весьці назіраньне з зямлі, але ўсё-ж такі часьцей бывае так, што пехацінцы раней выяўляюць супроцьтанкавую гармату, чым танкісты, якія сядзяць у броні. Колькі-б ні было дадана пяхотнай часьці танкаў, пяхота ўважліва павінна адносіцца да іх патрэб і берагчы іх, заўсёды дапамагаючы ім у баі агнём і лапатай.

— А самае галоўнае, таварыш Пятрукоў, памятуйце нельга зяваць. Аслабеў агонь кулямётаў супраціўніка, рабі перабежкі ўперад. Адкрыў кулямёт агонь, а танкі яго ня бачаць, адкрывай сам па такім кулямёце агонь. Дакладвай артылерыі. Наступай далей.

— У адным мае рацыю таварыш Пятрукоў: мы павінны разьлічваць перш за ўсё на сябе і ў тым выпадку, калі мы знаходзімся ў баі разам з танкамі. А часам усе танкі будуць пабіты супраціў-

нікам? Што тады рабіць? Ясна, наступаць далей бяз танкаў. Ніколі ня трэба забываць пра свае агнявыя сродкі—вінтоўку, кулямёт. Зразумела, таварышы?

— Зразумела—паказалі байцы.

Перад сьвітаньнем наша рота паднялася і прасунулася да перадавых часьцей, якія знаходзіліся мэтрах у 300 ад супраціўніка.

Разьвіднелася... Раптам уся наша артылерыя адкрыла моцны агонь па вышынях у распалажэньні супраціўніка (пытаньне 3, стар. 37).

Вышыні зацягнуліся дымам і пылам ад разрываў знарадаў. Праз чвэрць гадзіны задыміліся па лініі нашых перадавых аддзяленьняў дымавыя шашкі. Вецер быў спрыяючы, дым густымі клубамі панесла на касяк у бок супраціўніка. І калі ўсё распалажэньне супраціўніка схавалася за дымам (супраціўнік вёў неарганізаваны кулямётны і артылерыйскі агонь), мы пачулі ззаду шум і адразу ўбачылі 5 танкаў, якія хутка ішлі праз распалажэньне пяхоты ў бок дыму, г. зн. да супраціўніка (Рыс. 9). Скрозь гул артылерыйскага і кулямётнага бою мы, як толькі танкі прайшлі міма нас, ледзь разьбіралі шум ад іх матораў.

Як быццам плывучы, у прамежках між часьцямі пяхоты, танкі хутка праходзілі і зьнікалі з дыму. А яшчэ праз пяць мінут, калі дым некалькі разьвеяўся і адплыў далей у глыб распалажэньня супраціўніка, стала бачна, што танкі дасягнулі дротавых загарод, урэзаліся ў іх і пачалі рабіць праходы для пяхоты (рыс. 10). Неарганізавана,



Рыс. 9. Танкі хутка ішлі ў бок дыму.



Рыс. 10. Урэзаліся ў дратовыя загароды, робячы праход для пяхоты.

і ня робячы шкоды танкам, рваліся каля іх артылерыйскія знарады. Дым усё яшчэ вісеў на ўзгорках, занятых супраціўнікам, асьляпляючы яго назіральнікаў. Танкі зрабілі праходы і пайшлі ў атаку на кусты, адкуль учора стралялі кулямёты (рыс. 11).



Рыс. 11. Танкі пайшлі ў атаку на кусты, адкуль учора стралялі кулямёты.

— Чырвоныя ракеты,—крыкнуў назіральнік т. Сяргееў.

Гэта быў сігнал ісьці ў атаку. Танкі былі бачны ў паўтумане. Пяхота паднялася і пайшла ўперад. Падхоплены агульным імкненьнем, вясёлы і бесклапотны Кандакоў, з суседняга аддзяленьня, бег ва ўвесь рост, стараючыся дагнаць танкі. Ён трохі не дабег да іх і паваліўся, трапіўшы пад кулямётны агонь.

Ад ямы да ямы, ад аднэй складкі мясцовасьці да другой, хуткімі перабежкамі рухалася аддзяленьне Сідарчука ўперад. Сідарчук бачыў, як адзін танк раптам зарыў носам уніз—ён трапіў у глыбокую паросшую кустамі яму (рыс. 12). Перад танкамі і аказалася непраходная для іх



Рыс. 12. Танк упаў у глыбокую яму.

перашкода—глыбокая канава. Вядучы агонь з кулямётаў, яны пайшлі ў абход.

Сідарчук махнуў рукой. „Уперад". Аддзяленьне пачало перабягаць у канаву, якую абходзілі танкі.

— Уперад!—крыкнуў Сідарчук, калі аддзяленьне перабегла.

Як ісьці ўперад бяз танка? Але-ж сказана было, што пяхота наступае за танкамі.

Але аддзяленьне Сідарчука выскаквае з канавы і перабягае далей (пытаньне 4, гл. стр. 38). Справа

аддзяленьне ручнога кулямёта вядзе агонь па кулямёце супрацiўнiка. Уперад—на вышыню. Яе трэба захапiць. Адтуль—агонь кулямёта (рыс. 13).

Але танкi, абышоўшы перашкоду, пайшлi на вышыню i зноў апынулiся ўперадзi пяхоты... Яны




Рыс. 13. Схэма руху танкаў i пяхоты.

атакуюць вышыню; адзiн з танкаў наехаў на кулямёт, раздушыў яго, агнём зьнiшчыў яго прыслугу.

Аддзяленьне Сiдарчука заняло вышыню...

Раўнуйцеся па пярэднiм... Танкi пайшлi ўперад i дасягнулi хмызьняка, дзе былi абстрэлены

(рыс. 14), а, вышаўшы на супроцьлежнае ўзьлесьсе, былі спатканы агнём 3-х пушак. Аднак, зьяўленьне гэтых гармат было заўважана яшчэ раней артылерыйскім камандзірам. Ён безадкладна адкрыў па іх агонь батарэі... Да яе далучылася хутка і другая батарэя... Дзьве гарматы супраціўніка падбіты... Трэцюю адкацілі за грэбень...



Рыс. 14. Танкі былі сустрэны агнём ручных гранат.

У гэты час наша рота дасягнула хмызьняка.. на ўскраі яе скінулі ручнымі гранатамі, гэта часьць пяхоты супраціўніка засталася сустракаць нашу пяхоту, прапусьціўшы танкі ўперад. Штыкавым ударам, пры падтрымцы суседняй роты уперадзе якой ішоў узвод танкаў, супраціўнік выбіты з хмызьняка... Нашы часьці наступаюць

далей, усьлед за танкамі, якія хутка рухаюцца ўперад.

Рота праходзіць праз гай... Раптам яе атакуе з флянгу пяхотная рота супраціўніка. Мы нясем вялікія страты ад яе флянгавага кулямёта і гранатнага агню.



Рыс. 15. Узвод танкаў урэзаўся у пяхоту супраціўніка.

Адбылося замяшаньне, і рота трохі адышла назад. Але ў гэты час танк камандзіра танкавай роты вышаў зьлева ад нас з гаю, ён падаў сыгнал і мы ўбачылі, як нашы танкі павярнулі і на ўсім ходзе, адкрыўшы агонь, урэзаліся ў пяхоту супраціўніка (рыс. 15). Страціўшы многа забітых і параненых, пяхота супраціўніка ў паніцы разьбеглася ў бакі, стараючыся знайсьці ўкрыцьце ад

танкаў у лесе. Наша рота зноў перайшла ў наступленьне, выбіваючы групы супраціўніка з узьлесься і забіраючы палонных.

Хутка наш батальён заўладаў паселішчам, а танкі, выканаўшы сваю задачу, адышлі за закрыцьце, каб адкрыць люкі, астудзіць моторы, даць адпачынак камандам і атрымаць новую задачу. Танкавая рота страціла два танкі (другі танк суседняга узводу быў падбіт артылерыйскім агнём).

Мы бачым, што танкі своечасова дапамаглі пяхоце тым, што зьнішчылі контратакуючую роту супраціўніка. Калі-б яны гэтага не зрабілі, дык нясумненна наша рота доўга-б затрымалася, панесла-б страты, а магчыма супраціўнік і адкінуў-бы яе назад. Гэтая дапамога ўдалася дзякуючы таму, што танкі падтрымлівалі з пяхотай зрокавую сувязь. Камандзір танкавай роты ўвесь час ведаў, дзе пяхота і што яна робіць. Як мы цяпер бачым, і пры ўдзеле танкаў пяхота павінна весьці бой таксама, як і бяз танкаў. Танкі толькі аблягчаюць задачу пяхоты і выратоўваюць яе ад дарэмных страт.

У баі, у якім прымаў удзел са сваім аддзяленьнем т. Сідарчук, танкі суправаджалі пяхоту і дзейнічалі ў цеснай сувязі з ёю. Яны мелі з пяхотай агульныя задачы, аднак, ня былі прывязаны да яе. Ні пяхота ні танкі не перашкаджалі дзеяньням адзін аднаму і толькі сачылі адзін за адным і дапамагалі. Танкі, якія суправаджалі пяхоту, ня могуць адрывацца далёка ад яе і губляць з ёй зрокавую сувязь (500—600 *м.*), інакш атрымаецца

так, што пяхота не пасьпее скарыстаць посьпех дасягнуты танкамі.

Пяхота ні ў якім разе не павінна толькі назіраць за дзеяньнем танкаў: яна павінна дапамагаць ім агнём, выкарыстоўваючы іх посьпехі.

## ПЫТАНЬНІ:

### 1. Што такое выходная позыцыя для атакі танкаў?

Гэта—позыцыя, з якой танкі кідаюцца ў атаку. Яна выбіраецца з такім разьлікам, каб танкі маглі скрытна ад супраціўніка падыйсьці, заняць яе і таксама скрытна на ёй знаходзіцца да моманту




Рыс. 16.

атакі. З другога боку, выходная позыцыя танкаў павінна быць па магчымасьці бліжэй да перадавых чацьцей пяхоты, таму што танкам выгадней ісьці як можна менш часу пад абстрэлам артылерыі супраціўніка (рыс. 16 і 17). Займаецца выходная позыцыя або непасрэдна перад самай атакай, або не задоўга да яе (ня больш як за дзьве гадзіны) і вось чаму:

калі супраціўнік і дагадаецца аб атацы танкаў, то ў яго застанецца так мала часу, што ён ня зможа прыняць усіх неабходных і сур'ёзных мер




Рыс. 17.

супроць танкавай атакі. На выходнай позыцыі кожны танк распалагаецца за ўкрыцьцём найбольш выгодным і зручным для яго.

### 2. Для чаго патрэбна дымавая заслона?

Яна патрэбна для таго, каб скрыць ад супраціўніка танкі ў часе руху іх з выходных позыцый. Дымавая заслона пазбаўляе супраціўніка магчымасьці весьці назіраньне свайго агню і скрывае ад яго сапраўдны лік танкаў і іх баявы парадак.

### 3. Для чаго артылерыя адкрыла агонь па вышынях?

На вышынях знаходзіліся назіральныя пункты супраціўніка. Іх трэба было асьляпіць, каб артылерыя супраціўніка не магла весьці агню па танках, якія ідуць у атаку. Для гэтай-жа мэты была выпушчана і дымавая заслона. Усім гэтым забясьпечваўся няпрыкметны падыход танкаў да супраціўніка.

**4. Чаму-ж і зачым Сідарчук загадаў аддзяленьню ісьці уперад, абганяючы танкі. Танкі-ж павінны расчышчаць дарогу пяхоце?**

Гэта верна, што павінны расчышчаць. Аднак, здарылася так, што танкі павінны былі абыходзіць перашкоду. У той-жа час кулямётны агонь супрацiўніка паслабеў. Камандзір аддзяленьня правільна вырашыў скарыстаць паслабленьне агню супрацiўніка і рухацца ўперад, не чакаючы танкаў. Танкі-ж заўсёды здолеюць дагнаць пяхоту. Апрача таго, танкі, абыходзячы перашкоду, а значыць адстаючы ад пяхоты, усё-ж не пакідалі яе, а працягвалі падтрымліваць агнём кулямётаў і пушак (рыс. 13). Ня трэба забываць, што танкі могуць страляць ня толькі ў тым кірунку, у якім яны ідуць, але і ў другім, або, як кажуць „страляць пад кутом“.

---

## ТАНКІ Ў АБАРОНЕ І ПРЫ ВЫХАДЗЕ З БОЮ

Танкі зьяўляюцца, галоўным чынам, зброяй наступленьня. Іх асноўная задача—наносіць супрацiўніку сільныя ўдары, пракладваючы дарогу пяхоце, коньніцы або дзейнічаючы самастойна, выконваючы агульныя задачы. Аднак танкі могуць быць з посьпехам выкарыстаны і ў абароне. Дапамога пяхоце танкам у абароне асабліва патрэбна тады

калі супраціўнік моцна націскае, пяхота панесла вялікія страты, а адходзіць далей нельга. У 1918 г. французы стрымлівалі энэргічнае наступленьне германскай арміі дзякуючы ўжываньню вялікай колькасьці танкаў.

Як трэба ўжываць танкі ў гэтым відзе бою? Пры абароне трэба скарыстаць усе моцныя ўласьцівасьці танкаў: ня толькі іх агонь і броню, але і, галоўным чынам, рухавасьць. У аброне танкі дзейнічаюць, як кажуць, наступальна. Таму танкі могуць ужывацца толькі ў контратаках або контрударах буйных часьцей, садзейнічаючы ўдарнай групе.

---

## РАСКАЗ АБ ДЗЕЯНЬНЯХ ТАНКАЎ ПРЫ АБАРОНЕ

Стралковае аддзяленьне т. Сідарчука ў часе наступленьня страціла два чалавекі параненымі Іншыя аддзяленьні ўзводу пацярпелі прыкладна столькі-ж. Танкі аказалі магутную падтрымку пяхоце; у адзін дзень дывізыя прайшла 15 *км* у глыб распалажэньня супраціўніка і ўзяла шмат трофэяў і палонных.

Аднак, далей прасунуцца не ўдалося. Супраціўнік адышоў за раку і абараняўся на яе супроцьлежным беразе. Хаця рака была і невялікая, але для танкаў, з-за крутых берагоў, непраходная (пытаньне 5, гл. стар. 46).

Войскі былі спынены для падрыхтоўкі новага наступленьня. Другая рота (дзе служыў т. Сідарчук) увайшла у састаў ударнай групы палка. Ей трэба было даць адпачынак, папоўніць яе і прывесьці ў парадак пасьля цяжкіх баёў. Танкавыя часьці, якія ўдзельнічалі ў папярэдніх баёх, былі адведзены назад і распалажыліся кілёмэтрах у 4—5 ад лініі фронту. Аддзяльком, т. Сідарчук, ведаў, што танкі знаходзяцца ў лесе каля ракі.

Танкі таксама панесьлі страты . У роце, якая падтрымлівала 1 батальён, адзін танк застаўся на полі бою у паўшы ў глыбокую яму. Другі быў разьбіты артылерыйскім знарадам і ў ім былі забіты камандзір танка і вадзільнік. Першы танк быў выцягнуты з канавы трактарам, які прышоў за зьвяном, каб зьнішчыць аварыі. Другі нельга было адбуксіраваць адразу і пасьля спэцыяльных работ танк вывезьлі сродкамі танкавага батальёна.

Ноч прайшла неспакойна, таму што супраціўнік абстрэльваў артагнём то дарогі, то гай, то паселішчы.

Раніцой, усьлед за кароткай артылерыйскай падрыхтоўкай, пяхота супраціўніка нечакана перайшла ўброд рэчку і атакавала нас. Пасьля жорсткага бою нашы перадавыя часьці пачалі адход, нясучы вялікія страты.

Вось тут-та ўдарная група палка і атрымала загад. Камандзір другой роты, зьвярнуўшыся ад камандзіра батальёна, вызваў камзводаў і сказаў: „Супраціўнік уварваўся ў нашае распалажэньне.

Наша рота разам з узводам танкаў пераходзіць адсюль у контратаку вунь на тую вышыню з елкамі. Справа першая рота атакуе супраціўніка пры падтрымцы танкаў. Наша задача—адкінуць супраціўніка за раку. Пераходзім у контратаку зараз. Палкавы дывізіён вядзе ўжо агонь. Танкі нас дагоняць. Перадайце гэта байцом".

Рота хутка разгарнулася ў баявы парадак і перайшла ў контрнаступленьне на супраціўніка, які ўжо заняў перадавымі часьцямі вышыню з елкамі. Палкавая батарэя, перакатваючыся асобнымі гарматамі ўперад, адкрыла трапны агонь па кулямётах і стралках супраціўніка, якія вышлі на горку з елкамі.

Ледзь толькі рота ў баявым парадку вышла з гаю, як узвод танкаў яе перагнаў з-за левага флангу і накіраваўся туды-ж (рыс. 18).

Танкі адкрылі кулямётны агонь, падышоўшы мэтраў на 250 да горкі, са схілаў якой ўжо рухаліся насустрач роце, дробныя групы пяхоты. Гэтыя групы былі хутка расьсеены агнём танкаў. Яны ўжо дасягнулі грэбеня вышыні. За грэбенем танкі атакавалі каля паўроты пяхоты з аднэй гарматай. Гармаце адкрыць агонь не ўдалося: сваім агнём танкі безадкладна заставілі яе маўчаць. Пасьля гэтага танкі разагналі пяхоту (пытаньне 6, гл. ст. 46). Нашы артылерысты на руках выкацілі гармату на грэбень. Кулямёты былі ўжо там і абстрэльвалі пяхоту супраціўніка.

Другая рота вышла перадавымі аддзяленьнямі на горку, але па ёй флянг адкрыў агонь кулямётаў

з-за ракі. Пяхота залягла... З гэтымі кулямётамі танкі нічога зрабіць ужо не маглі. Трэба было пачакаць артылерыйскай падтрымкі... Танкі адышлі за закрыцьце...

Пасьля бою камандзір узводу абменьваецца з байцамі сваімі ўражаньнямі: „Шкада, што танкі не маглі гнаць супраціўніка далей—рака перашкодзіла. Супраціўнік ішоў па адкрытым месцы, відаць яго добра. Акопаў няма. Маскіроўка ў супраціуніка дрэнная. Танкі лёгка заўважылі кулямёты, і супраціўніку было цяжка схавацца ад іх".

Сапраўды танкі ня страцілі ніводнай машыны. Мясцовасьць хоць і была адкрытая, але артылерыя супраціўніка не страляла, як відаць з-за боязьні паразіць сваю пяхоту. Супраціўнік да таго-ж быў расстроены, як гэта часта бывае пры хуткім прарыве пасьля пераправы. Дзякуючы рашучасьці дзеяньняў танкаў удалося адкінуць супраціўніка зноў за раку.

Танкі могуць прымаць удзел ня толькі ў абароне. Яны дапамагаюць і пры выхадзе з бою. Бок, выходзіць з бою, імкнецца перш за ўсё як можна хутчэй адарвацца ад супраціўніка і як можна больш захаваць сваю жывую сілу, г. зн. пяхоту. Для гэтага супроць супраціўніка, які наступае і прасьледуе, высоўваецца ў ар'ергард як можна менш пяхоты і пабольш артылерыі, кулямётаў, і тым больш броневых сіл. Бронясілы—бронявікі і танкі—дзякуючы сваёй рухавасьці броні і агнявым сродкам, а танкі яшчэ дзякуючы ўсюдыходнасьці, могуць хутка высоўвацца з-за закрыцьцяў і прымушаць супраціўніка,




Рыс. 18. Танкавы ўзвод падтрымлівае стралковую роту ў часе контратакамі.

які прасьледуе, адыходзіць або спыняцца. Гэта дасьць магчымасьць кулямётам, артылерыі і невялікім часьцям пяхоты адыйсьці і разьмясьціцца на новым рубяжы.

## Змаганьне танкаў супроць танкаў.

Яшчэ большае значэньне маюць танкі ў змаганьні супроць танкаў. Лепшым зьнішчальнікам танкаў зьяўляецца броніраваная самаходная скарастрэльная гармата, г. зн. па сутнасьці кажучы



Рыс. 19. Зьнішчальнік танкаў Павэзі.

той-жа танк, Такі танк, сустрэўшыся з танкам толькі кулямётным, лёгка з ім расправіцца. У сучасны момант за граніцай для змаганьня з танкамі будуюцца спэцыяльныя зьнішчальнікі танкаў (рыс. 19) і броніраваныя трактарныя гарматы (рыс. 20 і 21).



Рыс. 20. Самаходная 82-мілімэтравая пушка.




Рыс. 21. Супроцьтанкавая пушка (возіцца танкеткай Кардэн-Лёйд).

У імпэрыялістычную вайну германцы мелі вельмі мала танкаў, аднак ужо тады адбылося некалькі выпадкаў бою танкаў супроць танкаў (пытаньне 7, гл. стар. 47). У будучай вайне танкавыя бaі нясумненна будуць значна часьцей. Рэзультат танкавага бюю залежыць ня толькі ад таго, колькі і якіх танкаў акажацца на тым ці іншым баку, але і ад таго, які ўдзел прымуць у гэтым баі пяхота і артылерыя, дапамагаючы сваім танкам зьнішчыць танкі супраціўніка, у той-жа час вядучы бой з яго пяхотай і артылерыяй.

## ПЫТАНЬНІ:

### 5. Якую раку ня могуць перамагчы лёгкія танкі?

Глыбінёй больш 7, *см* для лёгкага танка Рэно, з берагамі круцізны больш 45°, з глеістым дном, з непраходнымі для пехацінца балоцістымі берагамі.

Кожнае з гэтых уласьцівасьцяй робіць раку непараходнай для танка. Вось чаму супраціўнік спыніўся толькі тады, калі ён апынуўся за рэчкай, якая затрымала танкі.

### 6. Чаму танкі спачатку атакоўвалі гарматы?

Гармата зьяўляецца галоўным ворагам танка. Таму танкі заўсёды стараюцца зьнішчыць супроцьтанкавую гармату, а потым ужо прымацца за пяхоту і кулямёты супраціўніка. Вось чаму пяхота

можа часова аказацца без падтрымкі танкаў. Таму лепш, калі пяхота і артылерыя будуць распраўляцца з такімі гарматамі, а танкі з кулямётамі.

## 7. Як б'юцца танкі між сабой?

Калі цяжкі кулямётны танк сутыкаецца з лёгкім танкам, лёгкі танк павінен скарыстаць сваю хуткасьць, даўшы магчымасьць сваім цяжкім танкам



Рыс. 22. Цяжкі танк распраўляецца з лёгкім.

змагацца з танкамі супраціўніка. Толькі ў крайнім выпадку лёгкі кулямётны танк уступае ў бой з цяжкім, накіроўваючы свой агонь па глядзельных адтулінах цяжкага танка. На баку лёгкага танка ў гэтым баі глаўны плюс—гэта яго меншыя разьмеры і рухавасьць.

Лепш, калі пры сутычцы танкаў можна накіраваць агонь двух танкаў на адзін танк супраціўніка, тады нават два лёгкіх танкі могуць пасьпяхова змагацца з адным цяжкім або сярэднім. Танк, узброены толькі кулямётам, у большасьці выпадкаў асуджаны на пагібель пры сустрэчы з танкамі, узброенымі пушкай (рыс. 22).

---

## ДЗЕЯНЬНІ ТАНКАЎ У АДРЫВЕ АД ПЯХОТЫ.

Лясная паласа, на якой з адыходам супраціўніка адбываліся баявыя дзеяньні, была багата рэчкамі і балотамі. Нашым наступаючым войскам даводзілася весьці цяжкія баі. Цяжкасьць гэтых баёў лягла амаль цалкам на пяхоту і сапёраў, таму што танкі дзейнічаць не маглі, а артылерыя адставала ад пяхоты і дрэнна назірала. Супраціўнік упарта затрымліваў наша наступленьне ў спрыяючым для абароны лясістым раёне. Ён пачаў адыход толькі тады, калі на другім вучастку вызначыўся наш буйны посьпех.

Праз некалькі дзён наша рота вышла з лясной паласы на сухія адкрытыя ўзвышшы. Было загадана, не затрымліваючыся, разьвіваць посьпех. Зноў нам дадалі танкі і вялікую колькасьць артылерыі. Частка танкаў была вылучана ў групу падтрымкі пяхоты для яе суправаджэньня, а цэлы батальён танкаў быў вызначаны для „далёкага дзеяньня“— яму паставілі задачу: зьнішчыць батарэю супра-

ціўніка і разграміць яго бліжэйшы тыл для зруйнаваньня сувязі і харчаваньня.

Вось што расказваў аб гэтым камандзір танкавай роты, які ўдзельнічаў у танкавай групе, або, як называюць, у эшалёне „далёкага дзеяньня“, які разграміў артылерыю і тылы супраціўніка.

„Няпярэдадні атакі мы атрымалі аэрафотосхэму[1]) распалажэньня супраціўніка з яго батарэяй. Мы добра вывучылі мясцовасьць па карце па гэтай аэрафотосхэме і шляхам выведкі самой мясцовасьці з назіральных пунктаў. Мы знайшлі для танкаў выходныя позыцыі, добра ўкрытыя з паветра і з зямлі ад супраціўніка. Мая рота рухалася галаўной, астатнія—уступам справа і зьлева ззаду. Мая рота павінна была зьнішчыць батарэю № 2 і № 3 і затым дзейнічаць там, дзе зьявяцца нявыяўленыя раней батарэі або будуць няўдачныя дзеяньні другой або трэцяй роты (рыс. 23). Зьнішчыўшы батарэю, мы павінны былі абыйсьці сіні лес і біць па тылох супраціўніка за гэтым лесам, дзе, па нашых зьвестках, знаходзіліся абозы і артылерыйскія паркі. Нарэшце ў нашу задачу ўваходзіла зьнішчыць як адыходзячыя з фронту часьці, так і падыходзячыя з тылу падмацаваньні. Зборны пункт быў вызначан у „сінім лесе“.

У чатыры гадзіны ўсе знаходзіліся ў сваіх машынах у поўнай гатоўнасьці ісьці ўперад. Чакалі сыгналу аб выступленьні.

---

[1]) Аэрафотосхэма—схэма, зробленая на падставе фотографічных здымкаў, якія зроблены з самалёта.

Артылерыя вяла агонь, і знарады праляталі над нашай галавой. Сьвіст лёгкіх пушачных і шорах гаубічных знарадаў перакрэшчваліся між сабой.

У чатыры гадзіны 15 мінут я прыняў сыгнал „Уперад“ і безадкладна перадаў яго сваім уперад камузводам, а сам са сваім танкам пайшоў.

Хутка вышаўшы ў кірунку, які яшчэ ўчора намецілі, на грэбень, я ўбачыў, што знарады нашай артылерыі ірвуцца ў двух пунктах: на вышыні з дрэвам і вышыні 100,5. Было ўмоўлена, што мы пойдзем па чыстай ад ям паласе між гэтымі вышынямі. Я накіраваў танк у гэты прамежак, ідучы з максымальнай хуткасьцю. Мы хутка прайшлі распалажэньне сваей пяхоты і дасягнулі дроту. Некалькі знарадаў разарвалася непадалёк ад майго танка. Аднак, мы шчасна прайшлі праз дрот. Разрывы знарадаў перамясьціліся за грэбень. Унікаючы непатрэбных сутычак з супраціўнікам, мы ішлі ўперад хуткім ходам. Я бачыў кулямёт, які страляў па нас. Зьявілася батальённая пушка. Танк, які ішоў побач, другога ўзводу на поўным хаду кулямётным агнём зьнішчыў прыслугу.

Вось мой танк мінуў першыя акопы і пераваліў праз грэбень. Загрузаю на акопе, але, прыбавіўшы газу, перамагаю перашкоду і зноў рухаюся ўперад, абагнаўшы першы і другі ўзводы, якія нагналі мяне.

Прыкмячаю ўперадзі гаі. У прамежку між імі і за імі відаць разрывы цяжкіх знарадаў. Бачу блеск стрэлаў. Гэта батарэя № 3 адкрыла агонь па маёй роце. Даю сыгнал „У атаку, за мной, па




Рыс. 23. Абставіны дзеяньняў роты танкаў у групе „далёкага дзеяньня“.

батарэю". Другая і трэцяя танкавыя роты рухаюцца ззаду, з бакоў мэтрах у 400.

Бачу, што разрывы знарадаў уперадзі нас робяцца радзей. Наша артылерыя, пакінуўшы батарэю супраціўніка нам, перанесла ўвесь агонь па стралковых цэлях.

Знарады рвуцца ўперадзі, засьцілаючы дымам і слупам зямліназіраньне.

Я з першым узводам іду ў лоб батарэі, другі ідзе на левы і трэці—на правы флянг. Мы адкрываем моцны агонь. Я бачу, як спыняецца адзін танк I узвода—у яго перабіта вусеніца. Ён працягвае страляць. Я бачу, як яго знарад трапіў у адну з гармат батарэі.

Мы дасягаем позыцыі... Людзі разьбягаюцца (рыс. 24). Мы ўжо на батарэі... Камандзір танка з II узвода выскаквае з танка і хутка па чарзе вымае замкі з 2-х гармат. Ён бярэ іх з сабой у танк (рыс. 25).

Знарады нашай артылерыі значна папсавалі мясцовасьць. Танкі ўвесь час абходзяць ямы ад цяжкіх знарадаў. Аднак, хутка мы выходзім на больш роўнае месца і ідзем поўным ходам уперад. Назіраю, што робяць астатнія роты. Яны ўступілі ўжо у бой з іншымі батарэямі супраціўніка. Асабліва моцная стральба справа. Я вырашаю ісьці на дапамогу 2-й роце. Іду проста, потым заварочваю ўправа і заходжу ў тыл батарэі, якая змагаецца супроць 2-й танкавай роты.

Кулямётны агонь у тыл батарэі, якая страляе... Людзі падаюць паранены і забітымі. Адна гар-

мата пасьпявае павярнуцца назад на маю роту, але я накіроўваю на яе агонь маёй пушкі. 2-я рота цяпер сама справіцца. Я даю сыгнал: „рабі, што я“. Паварочваю роту назад, іду на батарэю № 2, але трапляю пад артылерыйскі агонь з узьлесься сіняга лесу. Гэта—ня выяўленая аэрофотоздымкай



Рыс. 24. Людзі з батарэі разьбягаюцца.

батарэя. Безадкладна зварочваю ў невялікую лагчыну—яна скрывае мяне ад стрэлаў батарэі. Я спыняю танк, чутны асобныя рэдкія ружэйныя стрэлы зьлева—гэта або 4-я, або 5-я батарэя. Гляджу хутка на карту. Вырашаюісьці за сіні лес, абыходзячы батарэю праз яго ўзьлесьсе. Ідзем на в. Севярынаўка на тылы з упэўненасьцю, што і астатнія роты выканалі свае задачы. Хутка аб-

ґінаем па балцы сіні лес і, прыкрываючыся хмызьняком, накіроўваемся на Севярынаўку. У канцы балкі, у кустох, натыкаемся на патронныя павозкі.



Рыс. 25. Камандзір танка хутка вынуў замок з гарматы.

Кулямётным агнём б'ем па людзях і конях. Перасякаем дарогу праз Севярынаўку і ўрываемся ў яе з тылавога боку. Адкрываем агонь з кулямёта і пушак. Хутка ляціць прэч аўтомобіль, мабыць штабны. Імчацца некалькі коняй. Паблізу танкаў

ірвуцца некалькі ручных гранат, але бяз вынікаў. Выходзім з вёскі, зварочваем па дарозе направа і натыкаемся на роту пяхоты, якая сьпяшаецца па дарозе. Праз некалькі мінут на дарозе і каля яе— дзесяткі забітых і параненых, разьбітыя павозкі і кулямёты... Рота перастала існаваць як баяваяадзінка.

Потым я павярнуў зноў на поўнач і вышаў на дарогу, дзе ў кустох спыніў танк для таго, каб агледзецца і орыентавацца. Уперадзе быў густы і вялікі лес, для танкаў непраходны. Я вырашыў даць людзям перадыхнуць, адкрыць люкі і падыхаць сьвежым паветрам. У роце недалічвалася 2-х танкаў, апрача таго, папсавалі кулямёт у адным з танкаў. Я вырашыў да падыходу астатніх рот пачакаць тут і адначасова з гэтым заняць выхады з вялікага лесу.

Хутка мы пачулі шум мотораў з усходу і поўдня: гэта падыходзілі нашы 2-я і 3-я танкавыя роты.

Мы ўсе адыйшлі на зборны пункт".

Так выканала сваю задачу група танкаў „далёкага дзеяньня", г. зн. батальён танкаў, накіраваны дзейнічаць супроць артылерыі супраціўніка і па яго тылох.

Тут з посьпехам дзейнічалі лёгкія танкі, але гэту задачу яны-б ня выканалі, калі-б дзейнічалі супроць добра ўмацаванай паласы. Тут лёгкія танкі ня здолелі прайсьці граз шырокія акопы, ходы зносін і праз рад іншых перашкод. Замест іх патрабаваліся-б цяжкія танкі, але не ціхаходныя, як марка У (рыс. 3), а быстраходныя, на-

прыклад, цяжкія танкі Вікерс (рыс. 5). Такія танкі ня толькі хутка прайшлі-б праз усе перашкоды, але і здолелі-б прыдушыць батарэі на іх умацаваных позыцыях.

Між іншым у імпэрыялістычную вайну ангельцы рабілі такія напады на батарэі і тылы супраціўнікаў нават пры дапамозе ціхаходных танкаў, якія ў іх тады былі, якія разьвівалі найбольшую скорасьць да 6—8 *км* у гадзіну. Вядомы выпадкі танкавых налётаў у тыл супраціўніка ў часе грамадзянскай вайны. Такія прагулкі прадпрынімаліся врангелеўцамі. Але танкаў у іх было мала і іх дзеяньні ў тыле не суправаджаліся рашучым наступленьнем войск на фронце. Таму такія налёты рабілі шкоду, непакоеньне, але не рабілі ўплыву на рэзультат змаганьня.

Гісторыя ведае выпадкі, праўда частковыя, і начнога нападу танкаў у тыл супраціўніка. Раз такія выпадкі ўжо былі, значыць яны магчымы і ў будучым. Але трэба сказаць, што начныя дзеяньні для танкаў, як і для бронямашын, цяжкія. Таму перад начнымі дзеяньнямі павінна быць старанная падрыхтоўка да іх машын, асабовага саставу і вывучэньне мясцовасьці. Ангельцам даводзілася рабіць такія начныя напады, але ня з мэтай разьбіць войска супраціўніка, або разбурыць якія-небудзь збудаваньні, а з мэтай глыбокай выведкі. Цяпер такія выведвальныя пошукі на быстраходных танках яшчэ больш магчымы. Пры дапамозе іх можна ўстанавіць, што падрыхтоўвае супраціўнік ноччу.

У заключэньні трэба зьвярнуць увагу на н
ступнае: як-бы добра ні дзейнічалі танкі ў ты
супраціўніка, колькі-б батарэй, паркаў, штаб
яны ня зьнішчылі, але калі войска (пяхота, арт
лерыя) нічога ня робяць, не наступаюць, а чак
юць, каб супраціўнік сам адступіў, забаяўшы
танкаў, то ніколі не дабіцца перамогі. Як-бы н
вялікія былі страты і шкода ад танкавага напа
ў тыле супраціўніка, ён заўсёды зможа, калі п
хота не замацуе посьпеху танкаў, ня толькі ўтр
мацца, але і зьнішчыць танкі, хутка падводзяч
новыя батарэі і новыя падмацаваньні.

---

## ДЗЕЯНЬНІ ТАНКАЎ З КАВАЛЕРЫЯЙ.

На танкі ўскладаюцца задачы ня толькі да
магаць пяхоце змагацца з артылерыяй, але і дз
нічаць разам з коньніцай, якая рухаецца знач
хутчэй, чым пяхота, і дзякуючы гэтаму можа в
конваць такія задачы, як хуткі абход флянгу, р
у тыл супраціўніка, разьвіцьцё прарыву і г.
Аднак, цяпер коньніцы цяжэй выконваць гэт
задачы, чым раней. Ня толькі фронт, але і ты
аказваюцца багатымі агнявымі і іншымі тэхніч
сродкамі змаганьня. А таму неабходна ўзмац
імі і коньніцу, але так, каб ад гэтага не зьм
шалася яе рухавасьць. Адным з такіх тэхніч
сродкаў і зьяўляецца быстраходны танк.

Баявы статут коньніцы гаворыць, што сучас

быстраходныя танкі можна ўжываць для дзеяньня сумесна за коннымі часьцямі і для нанясеньня раптоўных і хуткіх агнявых удараў у сувязі з дзеяньнямі коньніцы на флянгу або ў бліжэйшым тыле супраціўніка.

Бронявыя аўтомобілі таксама працуюць з коньніцай, але яны дзейнічаюць, як правіла, на дарогах і дадаюцца паўзводна невялікім кавалерыйскім падразьдзяленьням для дзеяньня галоўным чынам у выведцы і ахранеьні.

Танкі-ж нявыгодна распыляць па асобных кавалерыйскіх падразьдзяленьнях. Іх лепш выкарыстоўваць як ударны кулак там, дзе трэба рашуча разьбіць супраціўніка, і там, дзе аднэй коньніцы цяжка або немагчыма будзе справіцца з супраціўнікам.

Таму, калі броняаўтомобілі заўсёды ідуць уперадзі і ўдзельнічаюць у выведцы, то танкі, як правіла, выкарыстоўваюцца як рухомы рэзэрв коньніцы і ўводзяцца ў справу пасьля таго, як коньніца зробіць выведку, высьветліць распалажэньне супраціўніка і завяжа з ім бой.

Які танк прыгодны для дзеяньняў з коньніцай? Гэта залежыць ад мясцовасьці, ад таго, якія ёсьць рачныя перашкоды і якія праз іх масты. Ня кожны мост вытрымае ўсякі танк. Рэдкі мост на бальшаку і прасёлку вытрымае 12-тонны танк Вікерс, а многія масты ня вытрымаюць і 6-тонны лёгкі танк. Але ўсе масты свабодна прапускаюць танкетку. Коньніца рухаецца хутка, часта без дарог; ёй некалі чакаць, пакуль танкі будуць абходзіць

кожны мост. Вось чаму лепшым танкам, які суправаджае коньніцу, і зьяўляецца або лёгкі танк або танкетка.

. Аднак, танкетка ў даных умовах зьяўляецца хутчэй сродкам выведкі. Таму сапраўдным ударным бранявым сродкам для кавалерыі зьяўляецца лёгкі быстраходны танк. У будучым, калі танкетка будзе ўдасканалена, яна бязумоўна ў некаторых выпадках зможа замяніць лёгкі танк і будзе выкарыстана коньніцай як сродак агнявога ўдару.

---

## ДЗЕЯНЬНІ ТАНКАЎ У САСТАВЕ МОТОРЫЗАВАНЫХ І МОТОМЭХАНІЗАВАНЫХ ЧАСЬЦЕЙ.

Моторызаванай часьцю называецца любая вайсковая часьць, для якой аўтомобіль, трактар або мотоцыкль служыць не ад'емным сродкам перасоўваньня. Напрыклад, калі стралковы полк перасоўваецца не пехатой, а на аўтомобілях, якія за ім замацаваны, то ён зьяўляецца моторызаваным палком. Моторызаваная часьць перасоўваецца такім чынам па добрых дарогах значна хутчэй, чым любая пяхотная і нават кавалерыйская часьць.

Мэханізаваным злучэньем называецца злучэньне, якое выкарыстае мотор ня толькі для руху, але і для бою, г. зн. яно складаецца з танкетак, броняаўтомобіляў, танкаў і самаходнай артылерыі. Такое злучэньне здольна ня толькі хутка рухацца, але наносіць магутныя ўдары супраціўніку.

Цяпер усе капіталістычныя арміі заводзяць у сябе моторызаваныя і мэханізаваныя часьці, а некаторыя прапануюць нават цалкам мэханізаваць усю армію. Мэта ў іх такая: стварыць невялікую, але рухавую і магутную армію, закаванную ўзброні, з добра вывучаным адданым буржуазіі людкім саставам. У гэтай справе яны забываюць адно, што на кожнага байца, які сядзіць у машыне на фронце, трэба па разьліках іх спэцыялістаў 30 чалавек рабочых у тыле, для таго, каб гэтыя машыны будаваць, рамантаваць, і снабжаць. А гэта значыць што на 300 тыс. верных ім байцоў, якія магчыма і знойдуцца, трэба ў тыле 9 млн. рабочых, якія, вядома, ня будуць абараняць інтарэсы капіталістаў.

Моторызаваныя атрады ўжываліся яшчэ у 1911 г. італьянцамі ў Трыполі супроць туркаў. Ужываліся яны ў імпэрыялістычную вайну. Найбольш яскравы навучальны прыклад дзеяньня моторызаванага атраду мы маем у грамадзянскай вайне.

У 1920 г. Ковель быў буйным вузлом і месцам разьмяшчэньня складаў бояпрыпасаў 12-й Чырвонай арміі. Белапалякі пасадзілі на аўтомобілі пяхоту, прычапілі да аўтомобіляў пушкі, узялі бранявікі і пайшлі ў абход правага флянгу 12-й арміі па шашы на Ковель. Чырвонае камандваньне не чакала нападу на Ковель і не ўжывала асобных мер назіраньня за шашой. Польскі аўтомобільны атрад, зрабіўшы за суткі каля 140 *км*, амаль бяз супраціўленьня захапіў Ковель. За атрадам ішла пяхота з фронту. Захоп Ковелю адбіўся на ўсім

ходзе опэрацыі супроць белапалякаў. З боку палякаў у гэтым бәі дзейнічала моторызаваная пяхота, якая і перавозілася на машынах, і мэханізаваная часьць—бронявікі. Такое злучэньне называюць **мотомэханізаваным злучэньнем**. Замест броняаўтомобіляў такому злучэньню могуць быцьададзены танкі.

**Як-жа будуць дзейнічаць танкі ў саставе мотомэханізаванага злучэньня?** Каб адказваць на гэта пытаньне, трэба ведаць, з чаго складаецца такая часьць. У ёй ёсьць некалькі груп:

1. **Выведвальная група** з лёгка броніраваных аўтомобіляў з кулямётамі, бронявікоў, танкетак, асобных гармат і дробных стралковых кулямётных падразьдзяленьняў на грузавікох. Яна мае задачы весьці выведку супраціўніка, намацваць яго флянгі, пранікаць глыбока ў яго баявы парадак і нават, калі трэба, затрымліваць яго наступленьне.

2. **Аўтостралковая** група. Гэта перш за ўсё пяхота, пасажаная на грузавікі, якая мае сваю артылерыю, якую таксама возіць на машынах, сваіх сапёраў і сродкі выведкі і сувязі; усё ў яе моторызавана, г. зн. рухаецца на аўтомобілях. Гэта група мае задачы скоўваць супраціўніка, прычым, каб весьці бой, пяхота павінна высадзіцца з машын, г. зн., як кажуць, „сьпешыцца".

3. **Артылерыйская** група, якую складаюць некалькі самакатных або пагружаных на аўтомобілі артылерыйскіх батарэй.

4. **Танкавая** група з быстраходных танкаў, лёгкіх або сярэдніх, яна мае задачу наносіць супраціўніку руйнуючыя ўдары.

У большасьці выпадкаў такое злучэньне мае і ўласны і выведвальны і штурмавы авіяатрады.

Такая мотомэханізаваная часьць можа: 1) рабіць у суткі пераходы да 120—150 *км*, 2) хутка рухацца, нечакана зьяўляцца і 3) наносіць супраціўніку магутныя і глыбокія ўдары дзякуючы наяўнасьці танкаў. Аднак, такое злучэньне ня можа доўга абараняцца, таму што ў яго вельмі мала пяхоты; няздольна яно і да прарыву добра ўмацаванай паласы і к доўгаму ўпартаму наступленьню. Таму яно ўжываецца для свабоднага манэўру, г. зн. для абходу флянгу супраціўніка і нанясеньня раптоўнага ўдару па яго колёнах, для прасьледваньня супраціўніка і для дзеяньняў з кавалерыйскімі часьцямі. Ужываньне такога злучэньня ноччу надзвычай цяжка.

Аснову мотомэханізаванай часьці складаюць танкі; бяз іх яна ня была-б здольна да магутнага ўдару. Посьпех налёту належыць ня толькі ад хуткасьці руху, але і, галоўным чынам, ад мясцовасьці: калі мясцовасьць адкрытая, дык абараняцца супроць быстраходных танкаў цяжка; калі-ж мясцовасьць багатая лясамі, гаямі, населенымі пунктамі, хмызьняком і высокім збожжам, дзе можна ўкрыцца, дык тут лёгка арганізаваць абарону супроць танкаў.

Вялікую ролю ў мотомэханізаванай часьці адыгрывае і танкеткі. Яны маюць вялікую хут-

касьць руху, мала прыкметны і таму могуць рабіць глыбокую выведку супраціўніка. Дзякуючы сваёй усюдыходнасьці танкеткі могуць лёгка без дарог зайсьці ў тыл колёне супраціўніка і, раптоўна абстраляўшы яе кулямётным агнём, таксама хутка скрыцца.

Мы бачым, што танкі знаходзяць сабе вельмі шырокаюць і рознастайнае ўжываньне—ад цеснага ўзаемадзеяньня пяхоты да самастойнай баявой работы. Цяпер можна сказаць, што амаль ва ўсіх умовах і відах бою танкі могуць прыняць удзел. Танк зьяўляецца ўсё больш частым і неабходным спадарожнікам усіх важных баявых опэрацый.

**Посьпехі індустрыялізацыі нашай краіны дазваляюць нам павялічыць танкабудаўніцтва.**

**З кожным днём Чырвоная армія робіцца багацей тэхнікай. Баец павінен аўладаць гэтай тэхнікай.**

**ДАЁШ ТАНК!**

**ВЫВУЧАЙ ТАНК,**

**вучыся, як з ім дзейнічаць і змагацца.**

**Будзь заўсёды падрыхтаваны да сустрэчы з танкам.**

## Памятка байцу аб змаганьні з танкамі.

1. Калі табе загадана назіраць за зьяўленьнем танкаў, будзь старанным, уважлівым і пільнымі. Памятай, што ад тваёй пільнасьці залежыць, ці пасьпеюць твае таварышы падрыхтавацца для сустрэчы танкаў і ўжыць меры да іх зьнішчэньня.

2. Назірай з добра скрытага (замаскаванага) месца. У часе назіраньня больш надзейся на вочы, чым на слух, таму што шум танкаў, якія ідуць у атаку, супраціўнік часам наўмысьле маскуе (заглушае) шумам аэроплянаў або грукатам артылерыйскай стральбы.

3. Танкі могуць рухацца ня толькі па дарозе, але і цалiной,—памятуй, што там, дзе без асаблівых цяжкасьцяй пройдзе пяхота, там пройдзе і цэлая група танкаў (нягрузкае балота, дробны лес і да т. п.).

4. Калі ўбачыў танкі, ня мітусіся, не перабягай з месца на месца, ня рухайся перад танкам, ня падай духам і ня думай, што танкі паўзуць абавязкова на цябе, як табе здаецца здалёк. Уцяканьне ня выратуе, а толькі пашкодзіць і табе і тваім таварышом.

5. Калі зьяўляюцца танкі, ні ў якім выпадку не пакідай сваей варты. Спачатку агледзься, вызнач,

куды яны накіроўваюцца, зараз-жа далажы свайму камандзіру і чакай яго загадаў. Атрымаўшы загад, выконвай яго хутка, дакладна і не хвалюючыся.

6. Калі камандзіра няма, дзейнічай па ўласнай ініцыятыве і перш за ўсё знайдзі ўкрыцьце і схавайся за ім. Памятуй, што калі ты добра схаваны і замаскаваны, то і паблізу танка можна застацца незаўважаным,—назіраньне з танку дрэннае.

7. Май на ўвазе, што грузкае балота, густы лес або парубка з таўстымі ня згніўшымі пнямі, сухадолы і балкі з крутымі абрывістымі берагамі, рэчкі да 2-х мэтраў глыбіні не прапусьцяць танка, асобныя дрэвы не таўсьцей паўмэтра прымусяць яго абыходзіць іх. Калі выбіраеш укрыцьце або назіральны пункт, карыстайся гэтымі перашкодамі.

8. Сачы ня толькі за танкам, але за тым, што рухаецца ўсьлед за ім. Калі ўсьлед за танкам рухаецца пяхота, дык лепшыя стралкі і ручныя куляметнікі будуць біць па танках бронябойнымі кулямі, астатнія—па пяхоце. Калі пяхота будзе адбіта, танкі наўрад ці будуць мець посьпех—яны або трапяць у палон, або будуць расстрэлены артылерыяй.

9. Калі сустрэча з танкам няўхільна, бі з вінтоўкі па назіральных шчылінах або па адтулінах, праз якія высоўваюцца пушкі і кулямёты.

10. Калі ў цябе ёсьць гранаты, кідай іх зьвязкамі па 5—7 штук пад вусеніцы і пад бруха танка: танку адзінкавыя гранаты не пашкодзяць.

11. Калі спаткаеш танк у населеным пункце, старайся з-за пабудоў дабрацца да яго бліжэй.

Дабраўшыся, кідай пад яго зьвязку гранат. Кал гранат няма, загараджвай яму дарогу або выхад з паселішча бярвеньнямі або іншымі прадметамі, якіх танк перамагчы ня можа. Калі-ж танк спынецца і каманда выйдзе зьнішчыць перашкоду, бі яе з вінтоўкі.

12. Пры нечаканай сустрэчы з танкам на паходзе старайся схавацца за дрэвамі, за каменьнем, узгоркамі або ў кустох і страляй з-за іх. Старайся трапіць у глядзельныя адтуліны або кідай зьвязкі гранат пад вусеніцы танка.

13. Калі танкі застануць цябе ў акопе і ў цябе ня будзе часу схавацца, дык, як толькі танк пачне пераходзіць акоп, кідай яму пад бруха зьвязкі гранат і страляй ва ўсе адтуліны, якія табе відаць. Калі пад рукамі знойдзецца брус або жалезны лом, залажы між яго вусеніцай і колам, вусеніца будзе папсавана, і танк спыніцца. Дзейнічай сьмялей і памятай, што калі знаходзішся побач з танкам, то ён паразіць цябе адразу ня можа,—ты ў мертвай адлегласьці.

---

## Памятка байцу аб сумесных дзеяньнях з танкамі.

Для таго, каб пасьпяхова дзейнічаць разам з танкамі, кожны баец Чырвонай арміі павінен ведаць наступныя асноўныя правілы:

Калі прыходзіцца наступаць разам з танкамі, не старайся ўсутыч падыходзіць да іх і не садзіся на

хвост танка ў часе яго руху. Памятай, што агонь, накіраваны па танку, будзе паражаць і цябе.

Калі танк паблізу цябе загруз у акопе, канаве, яме або рове, дапамажы яму, чым толькі можаш, памятай, што ўзаемная дапамога і выручка ў баі— залог посьпехаў у баі.

Калі танк пройдзе міма кулямёта або пушкі супраціўніка і не заўважыць іх, пастарайся зьнішчыць іх сваімі сродкамі. Памятай, што наяўнасьць танка не зьнімае з сябе абавязкаў змагацца з агнявымі пунктамі супраціўніка. Асаблівую ўвагу зьвярні на зьнішчэньне пушкі: яна можа вывесьці танк са строю, а танк,—твой верны памочнік.

Памятай, што самы злы вораг танкаў—гэта супроць танкавая пушка.

Як толькі выявіш яе, старайся безадкладна ўказаць яе танкам і сваім суседзям, і зараз-жа ўжывай захады, каб зьнішчыць яе і прыслугу пры ёй.

У часе атакі танкамі кулямётных гнёздаў і супроцьтанкавых пушак старайся ўсю моц свайго агню накіраваць на падтрымку танкаў, бі па гарматнай і кулямётнай прыслузе супраціўніка.

Пры падтрымцы танкаў сваім агнём страляй па супраціўніку ў прамежкі між танкамі і праз іх, ня бойся, што пашкодзіш іх сваім агнём: танкі з усіх бакоў надзейна абаронены ад стрэльбавых і кулямётных куль, і твая стральба не пашкодзіць ім.

У часе атакі разам з танкамі не старайся і далёка адставаць ад іх—не далей 200—300 *м*—

інакш посьпех, дасягнуты танкамі, ня будзе своечасова замацаваны і прападзе без карысьці. Памятай, што танкі лёгка могуць захапіць умацаваньні супраціўніка, ане амаль ня могуць утрымаць захопленае сваімі сіламі.

У часе руху разам з танкамі памятай аб маскаваньні, карыстайся кожнай калдобінай, бугром, паралескам, канавай.

Калі наш танк уварваўся ў акоп і ня можа хутка вызваліць яго ад супраціўніка, дапамажы танку сваім агнём, штыком або гранатай.

Калі ў баі з танка папросяць цябе ўказаць цэлі або перадаць задачу твайго падразьдзяленьня (часьці), пастарайся безадкладна, хутка і толкова адказаць на заданыя табе пытаньні і паказаць на мясцовасьці ўсе цэлі, якія ты бачыў.

Калі танкі затрымаліся і ня могуць прасоўвацца далей, працягвай наступленьне разам са сваім падразьдзяленьнем без падтрымкі танкаў. Кожны баец павінен ведаць, што танкі толькі падтрымліваюць у баі пяхоту, але не замяняюць яе.

Калі танк падбіты, папсаваўся (выкінуў чырвоны флаг), пастарайся ў што-б там ні было падыйсьці да яго і дапамагчы яму.

---